## У НУМАРЫ:



### АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

# НА ШЛЯХУ СТАНАЎЛЕННЯ

**Прайшло крыху больш года з дня заснавання раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Тэрмін параўнальна непрацяглы. Але коратка спынюся на тым, што зроблена і што плануецца.**

### КРЫХУ ГІСТОРЫІ

25 жніўня 1989 года пад час нарады настаўнікаў раёна была ўнесена прапанова аб стварэнні аргкамітэта ТБМ імя Францішка Скарыны. За некалькі тыдняў аргкамітэт быў сфарміраваны. 13 кастрычніка адбылося ягонае пасяджэнне, абраны старшыня. Пачалася падрыхтоўка да раённай устаноўчай канферэнцыі.

28 лістапада прайшла канферэнцыя. Яна абрала раду Таварыства (25 чалавек), яе прэзідыум (5 чалавек) і рэвізійную камісію (5 чалавек). Паводле Статута кіраўніцтва ТБМ выконвае свае абавязкі на грамадскіх асновах. Пачаўся нялёгкі шлях станаўлення гэтай грамадскай арганізацыі.

23 сакавіка 1990 года яна зарэгістравана сакратарыятам рэспубліканскай рады Таварыства і, такім чынам, набыла афіцыйны статус.

На сёння зарэгістравана 15 першасных суполак, у якіх налічваецца каля 600 сяброў. Раённая арганізацыя набыла правы юрыдычнай асобы, мае сваю пячатку і рахунак у Навагрудскім аддзяленні Аграпрамбанка.

Нумар нашага рахунка 000700042. Кожны грамадзянін, арганізацыя, ўстанова маюць законнае права пералічваць на рахунак грашовыя сродкі. Дарэчы, некаторыя гэтае права выкарысталі. Шчырае дзякуй нашым ахвяравальнікам. Вашы грошы будуць выкарыстаны на высакародную справу адраджэння беларускай мовы.

### НАБЫТКІ І ЗАДАЧЫ

Галоўным напрамкам работы Таварыства да прыняцця Закона аб мовах была падтрымка руху за вяртанне беларускай мове статуса дзяржаўнай. Прынятая на ўстаноўчай канферэнцыя адпаведная рэзалюцыя была накіравана ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР. Па нашай прапанове аналагічныя рэзалюцыі былі накіраваны туды ж ад некаторых першасных суполак.

Цяпер жа, пасля прыняцця Закона, наша задача — сумесна з усімі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі садзейнічаць яго выкананню.

Распрацаваны адпаведныя мерапрыемствы. Іх праект апублікаваны ў раённай газеце за 25 кастрычніка 1990 года.

Прадугледжваюцца два асноўныя напрамкі работы. Гэта павышэнне ролі ўсіх навучальна-выхаваўчых і культурна-асветніцкіх устаноў у пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы. (У прыватнасці, да 2000 года прывесці ў адпаведнасць з нацыянальным складам насельніцтва колькасць вучняў агульнаадукацыйных школ, якія вучацца на беларускай мове). І другое — выкарыстанне як мага шырэй беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця. Да 1993 года ўвесці беларускую мову ў якасці службовай у практычную дзейнасць прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці.

Сёння ў гарадскіх дзіцячых садках адкрыты першыя беларускамоўныя групы, а садок № 7 цалкам пераведзены на беларускую мову. У СШ №№ 2, 4, 5, 6 і школе-інтэрнаце адкрыты беларускамоўныя класы, афармляюцца ў нацыянальным стылі кабінеты. У наступным годзе плануецца СШ № 4 цалкам перавесці на беларускую мову навучання і выхавання. Адчынены курсы па вывучэнню беларускай мовы на швейнай фабрыцы — для ІТР, у СШ № 4 — для выхавацеляў дзіцячых садкоў. У СШ № 5 плануецца адчыніць такія ж курсы для службовых асоб.

### НАША ВЫДАННЕ

Болей шырока будуць прапагандавацца пытанні адраджэння мовы, нацыянальнай самасвядомасці на старонках нашага бюлетэня «Навагрудскі кур'ер». Яго з'яўленне — добрая праява перабудовачнага часу. Якім жа атрымаўся першы нумар, — меркаваць чытачам. На маю думку, ён занадта палітызаваны. Праблемы і задачы Таварыства апынуліся недзе на заднім плане. На першым — праблемы грамадска-палітычнага жыцця. Хаця, вядома, ад іх мы не можам таксама адгарадзіцца, бо надта звузім кола чытачоў. Выданне стане больш цікавым, калі будзе шырэйшым кола чытачоў і аўтараў. Чакаем вашых публіцыстычных і мастацкіх твораў, прапаноў, заўваг.

### СЯБРОЎСКІЯ ПАСВЕДЧАННІ І ЗНАЧКІ

З 1991 года пачынаецца ўручэннем сябрам Таварыства пасведчанняў і значкоў. Каб іх атрымаць, сябры арганізацыі ўносяць на рахунак ТБМ у памерах, вызначаных Статутам, уступныя і гадавы складкі (узносы). Яны афармляюцца праз скарбовыя лісты. Пасведчанні і значкі выдаюцца тым, чые прозвішчы пазначаны ў лістах. Уступная складка (1 рубель) як раз і пойдзе на аплату значка і білета. Астатнія грошы будуць выдаткаваны на выданне «Навагрудскага кур'ера», заахвочванне тых, хто прыме актыўны ўдзел у арганізацыі курсаў па вывучэнню беларускай мовы.

**У. БАРМУТА,**
**старшыня раённай рады ТБМ імя Францішка Скарыны.**

## ЭКСПЛУАТАЦЫЯ ЦІ СВАБОДА?

**У СВЯДОМАСЦІ савецкіх людзей укараніўся міф, быццам бы ў нас няма эксплуатацыі. Ці так гэта? Возьмем хаця б статыстыку. Адна гадзіна працы ў Швецыі, ФРГ каштуе 28-30 долараў, у СССР—менш аднаго. Амерыканскі рабочы атрымлівае ў пераліку на рублі 8—9 тысяч у месяц, гэта прыкладна ў 30 разоў болей за савецкага. Рабочым Захада вяртаецца 70 працэнтаў працы, у нас — не больш 20.**

**Якая ж нагода такога становішча? Іх шмат. Але пры роздуме над гэтымі лічбамі прыходзяць на ўспамін словы К. Маркса пра тое, што бюракратыя здольна ператварыць усю дзяржаву ў сваю прыватную ўласнасць, стварыўшы лад дзяржаўнага капіталізму. Бюракраты — гэта калектыўныя эксплуатататары, калектыўныя капіталісты. А ў нашай краіне іх каля 18 мільёнаў — самая вялікая армія ў свеце. Пaглядзіце, колькі існуе Саветаў, міністэрстваў, ведамстваў і г. д.**

**Каму належыць уласнасць? Яна ў нас абязлічана. А капітал павінен некаму належаць. Што благога, калі прыватнік (капіталіст) мае свой надзел зямлі, сад, свой будынак, на першым паверсе якога, напрыклад, свая прыватная цырульня. Ён класна абслугоўвае кліентаў. Таму, хто чакае ў чарзе, прапаноўваюць каву, келішак сухога віна ці пачытаць газету і г. д. Ён адзін працуе, плаціць падатак. У яго няма начальнікаў з машынамі, камандзіраў з міністэрстваў. Тое ж можна казаць пра фермерскую гаспадарку. Магчыма, я крыху прымітыўна абмаляваў гэту сітуацыю, але ў прынцыпе яно так і ёсць. І яшчэ. Чалавек, які нікому не падначалены па службе, становіцца незалежным. А гэта значыць — свабодным.**

**Я. ВОЙНА,**
**в. Ст. Нягневічы.**

## „ЦВЁРДАЯ РУКА"

УСЕ мы бачым, у якім цяжкім становішчы апынулася наша краіна. Пачаўся сапраўдны эканамічны крызіс. Назіраецца параліч улады. Пахіснуўся яшчэ нядаўна моцны аўтарытэт партыі.

На фоне ўсяго гэтага ўсё часцей можна пачуць такія разважанні: «Без цвёрдай рукі парадку не будзе», «На годзік-другі нам зноў неабходны вусаты бацька...»

Слухаючы гэта, міжволі задаешся пытаннем: «Хто тут памыляецца, а хто свядома заводзіць у зман? У кім гаворыць туга прыгоннага па нагайцы, а ў кім — настальгія прыгонніка па мінуўшчыне?»

Ну, з'явіцца ў нас новы цвёрдарукі «правадыр». Дзе гарантыя, што ён пачне месці лесвіцу зверху? Што пачне адшукваць нагоду нашых бедстваў там, дзе яны сапраўды знаходзяцца? Дзе гарантыя, што не пачнецца барацьба з усімі, хто нестандартна, арыгінальна мысліць? Што не адродзіцца галоўны метад «пераканання» — рэвалюцыйнае насілле?

Абсалютна ніхто такіх гарантый даць не можа. А вопыт паказвае, што многія «цвёрдыя рукі» па локці ў крыві. Яны без сумніву, растаптаўшы законы і мараль, фабрыкавалі «справы» на мільёны нявінных ахвяр.

Паглядзіце хоць бы апошні спіс рэабілітаваных, апублікаваны ў «Звяздзе» за 16 лістапада мінулага года. Сярод ахвяр бачым рабочага, работніцу, вагаўшчыка, майстра цэха, справавода і г. д. Пра «гнілых» інтэлігентаў проста маўчу.

Вось бачыце, дзе «цвёрдая рука», наводзячы «парадак», знаходзіла «ворагаў народа» — у рабочым, сялянскім, інтэлігенцкім асяроддзі.

ДЫК дзе выхад з крызісу?

Найперш, трэба, відаць, знайсці нагоду гэтага крызісу. А яна—у адсутнасці кіраўніцтва, якое б карысталася даверам большасці народа. Нам сапраўды не шанцавала на лідэраў. На вяршыню ўлады часцей узбіраліся людзі нікчэмныя.

Гарбачова, чалавека адкрытага і, наколькі гэта магчыма палітыку, шчырага, дэмакратычнага па характару, чалавека, які не толькі можа гладка прачытаць даклад, але і асэнсаваць напісанае, які свабодна можа гаварыць наогул без усялякіх паперак, мы адразу ўспрынялі, як выратавальніка краіны. І дзеля гэтага ён, відаць, зрабіў усё, што мог. Але ці зробіць болей? Пажывём — пабачым, бо і тут гарантыі мы не маем.

З другога боку, пра сваю матэрыяльную і сацыяльную абароненасць ён паклапаціўся ў першую чаргу. А народу за пяць гадоў стала яшчэ горш. Не дзіва, што аўтарытэт прэзідэнта падае.

Апошнім часам слова «кансалідацыя» кажуць і правыя, і левыя. Але яно і сапраўды адпавядае сённяшняй сітуацыі. Трэба, каб селі за стол перамоў прадстаўнікі тых, хто «рвецца да ўлады», і тых, хто ўжо дарваўся. Ім трэба выпрацаваць механізм стварэння кіраўніцтва, якое б карысталася падтрымкай большасці народа, большасці існуючых партый і рухаў.

Такое кіраўніцтва і будзе той сапраўды цвёрдай рукой, якая дэмакратычным шляхам выведзе краіну з крызісу. Толькі гэта цвёрдасць будзе забяспечвацца не злачынствамі і тэрорам, а даверам народа. Народ жа, які давярае свайму кіраўніцтву, здольны на вялікія справы. Нават нягледзячы на часовыя цяжкасці...

**В. УЛАДЗІМІРАЎ,**
**г. Навагрудак.**

# ПАЭТЫЧНАЯ ГАСЦЁЎНЯ

С. СЯНКЕВІЧ.

## НАВАГРАДСКІЯ МУРЫ

Вы мінулага сведкі росквіту,
Аб магутнасці ўспаміны.
Сабіраліся тут на досвітку
У паход за Літву літвіны.
Іх мячы загарэліся славаю,
Іх харугвы, як кроў, чырвоныя.
У ірве кроў людская плавае,
Бо прайшлі тут атрады конныя.
Тут прайшлі крыжакі навалаю.
Трэ' цяпер нам ісці ў Пагоню.
Хай жанчыны са сцен разваленых
Нам запаляць услед паходню.
Хто не зведаў мяча літвінскага—
На зямлю нашу сквапна меціўся.
Мне былі іх пачуцці блізкія,
Бо той замак цяпер разветрыўся.
Дзве сцяны. Успамін магутнасці?—
Гэта слабасць мая з табою.
Мы згубіліся ў самай сутнасці,
Не знайшоўшы нідзе спакою.
Ад рэспублікі паспалітыя,
Рэч адняць—і няма рэспублікі.
Два муры, што крывёю палітыя,
Засталіся без Рэчы. Публіцы.

Б. АБРЫЦКІ.

## РАНІЦА Ў НАВАГРАДКУ

(З цыклу «Белыя вершы новага горада»)

Мусіць, раніца ў Наваградку настае

пад крокі бегуноў на стадыёне,
пад гукі ўключанай у кватэрах вады,
пад разгубленасць дзяцей, што прачнуліся.
Альбо...

Гэта ўсё падмятальшчыцы, я ведаю, яны

праганяюць венікамі ноч,
толькі неахайна гэта робяць, як і сваю работу...
Але ж...

Не, вежы на Замкавай гары ведаюць, але яны

маюць іншую раніцу, якая
мо і не надышла.
Ці...

Добра, што хоць ведаю яе сканчэнне,

калі гудзе царкоўны звон у былым кляштары
І, высыпаўшы з рэйсавых аўтобусаў,
туды накіроўваюцца людзі, каб памаліцца.
А мы...

## РАСЕЙСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

(паводле В. ЛАСТОЎСКАГА)

| | |
|---|---|
| Копия | — водпіс |
| корректор | — карэгатар |
| корреспонденция | — ліставанне |
| коробейник | — лахтыр |
| корь | — водра |
| котомка | — кайстра |
| кратер | — рыгво |
| кромешный | — сукромны |
| кузнечик | — прузік, сваршчэнь |
| кузов | — кодаб |
| курган | — валатоўка |
| кухня | — варыўня |
| лазутчик | — асочнік, зведчык |
| лакей | — стольчы |
| ларец | — коўчык |
| ливерная (каўбаса) | — драмязоўка |
| ливреи | — барва |
| лимон | — цытрына |
| лимонад | — фруктоўка |
| лихорадка | — трасца |
| лицевой | — відавы |
| логовище | — лагво |
| лодочник | — вясляр |
| лозунг | — покліч |
| локон | — павітка |
| лоскут | — матуз |
| лоцман | — корнік |
| лукоморье | — атока |
| лунатик | — памесяўнік |
| лыжи | — ірты |
| льстец | — лізус |
| люстра | — баляндаш |
| Легавый (собака) | — выжла |
| макароны | — локшыны |
| мансард | — свяцёлка |
| марка | — познамка |
| мастер | — здольнік |
| маяк | — мігак |
| мередиан | — поўднік |
| метал | — ковік |
| мимика | — ківомігі |
| минерал | — крышэц |
| мираж | — марава |
| Млечный путь | — птушыны шлях |
| морс | — стан, ягадавік |
| мыс | — суга |
| наваждение | — наслань |
| навес | — павець |
| нагайка | — гарапнік |
| нажива | — зыск |
| нары | — тапчагі |
| сплошь | — наўсуцэль |
| натощак | — нашча |
| невидимка | — няўгледка |
| необитаемый | — неаселы |

(Працяг будзе).

# „У чынім правы вольныя...“

**(НАЙДАЎНЕЙШЫ ЮРЫДЫЧНЫ АКТ НАВАГРАДСКАЙ ЗЯМЛІ).**

**Першая публікацыя — спецыяльна для «Навагрудскага кур'ера».**

**Сёлета ў Ленінградзе зроблена неспадзяваная, можна сказаць смела — сенсацыйная знаходка. Важная не толькі для сярэдневяковай гісторыі Наваградка і ўсяго Панямоння, але і для разумення працэсаў станаўлення Вялікага княства Літоўскага.**

ВЫГЛЯДАЕ гэта знаходка добрым кавалкам скуры (34х41 см), на якім кірылічнымі літарамі напісана Устаўная грамата (Прывілей) вялікага князя літоўскага Казіміра Ягелончыка для «Зямлі Наваградскай». Пергамен мае тры дзірачкі, праз якія прасоўваўся шаўковы шнурок з віслай пячаткай — дасёння пячатка і шнурок не захаваліся. Каліграфія тэксту Прывілея паказвае на пятнаццатае стагоддзе, ёсць і пазнейшыя — архіўныя — прыпіскі беларускім скорапісам XVI—XVII стст. У 1932 годзе рукапіс трапіў у Дзяржаўную Публічную бібліятэку ў Ленінградзе (на жаль, немагчыма высветліць — адкуль) і толькі сёлета, разбіраючы папку з неапрацаванымі паперамі, на яго звярнуў увагу малодшы навуковы супрацоўнік Аддзелу рукапісаў Сяргей Жамайціс.

«Літасьцю Божай Мы Казімір каралевіч, вялікі князь Літоўскі, Жамойцкі, Рускі і іншых, сьведама чынім гэтай нашай граматай усякаму, хто яе ўбачыць, альбо чытаючы пачуе, што далі духоўным, і князям, і панам, і баярам, і зямянам, і мяшчанам, і ўсяму паспольству зямлі Наваградскай правы вольныя добрыя хрысьціянскія...» — далей напісаны 14 артыкулаў, якія заключаюць самыя розныя часткі, як бы мы сёння сказалі крымінальнага і адміністрацыйнага права.

Устаўная земская грамата для Наваградскай зямлі зараз з'яўляецца адзіным прывілеем Казіміра, які захаваўся ў арыгінале. Казімір Ягелончык надаў падобныя акты і для іншых частак Вялікага княства, але ўсе яны дайшлі ў пазнейшых спісах.

Тое, што вялікім князем літоўскім абраны Казімір Ягелончык, было ўрачыста абвешчана 3 ліпеня 1440 г.. Новаму гаспадару на той час было 13 гадоў. Няма сумнення, што дзяржаўныя акты, якія выдаваліся ад яго імя ў першыя гады маестату, абдумвалі і рыхтавалі «паны-рада», альбо «гаспадарская рада», у якую ўваходзілі віленскі ваявода Іван Доўгерд, троцкі ваявода Ян Гаштольд, віленскі кашталян Хрысціян Осцік і іншыя найбольш уплывовыя асобы Вялікага княства Літоўскага. Гісторык права Міхал Ясінскі выказаў яшчэ ў 1889 годзе думку, што найважнейшай справай для каралевіча Казіміра было супакоіць хваляванні ў Жамайціі і таму ў другой палове 1440 года быў дадзены Прывілей Жамайціі — дэкляраваліся правы жмудзінаў выбіраць сабе старасту і запісвалася, што Жамайція добраахвотна далучылася да Вялікага княства Літоўскага. Нядаўна знойдзеная Устаўная грамата Наваградскай зямлі дае падставы лічыць, што падзеі адбываліся іншым чынам.

НАВАГРАДСКІ Прывілей падпісаны 22 ліпеня 1440 года—усяго праз 19 дзён пасля ўступлення каралевіча Казіміра на вялікакняжскі трон. Прывілей для адной з першых і важнейшых земляў дзяржавы дадзены ў Троках, дзе ваяводам быў старэйшы сярод паноў—рады Ян Гаштольд, які дыпламатычна вырашыў канфлікты ў Жамайціі, першачаргова паклапаціўся аб Наваградчыне. Прычыну гэтаму яшчэ трэба шукаць, але не выклікае сумнення, што наданнем Устаўной граматы падкрэслівалася ўвага да Наваградка — старажытнай сталіцы Вялікага княства, горада, у якім бралі шлюб бацькі новага вялікага князя — Уладзіслаў Ягайла і Соф'я Гальшанская (фарны касёл, у якім асвечаны быў гэты шлюб дасёння стаіць пры Замкавай гары).

У «Гістарычным нарысе Наваградскага ваяводства» Генрыха Лаўмяньскага (Вільна, 1932) паведамляецца, што ў Наваградку ваяводства паўстала ў 1507 годзе. У тэксце «Устаўнай граматы» мы двойчы сустракаем успамінанне ваяводы, як прадстаўніка вялікакняскай улады. Вядома з іншых дакументаў, што ім быў Пятраш Мантыгердавіч, якога акты «Літоўскай метрыкі» да 1440 г. называюць «наместнікам наваградскім», а пасля 1440 — «наваградскім ваяводам». «Устаўная грамата» абмяжоўвае ўладу ваяводы: ён не павінен адзін судзіць месцічаў (мяшчан, жыхароў гораду), але рабіць гэта разам з іншымі «месцічамі» таксама не павінен «уступацися ў локаць і вагі гарадскія», бо з іх падаткі на карысць гараджан.

Наступныя пасля Пятраша Мантыгердавіча прадстаўнікі вялікакняскай улады на наваградчыне часам карысталіся тытулам «наместнік», часам, як, напрыклад, князь Сямён Юр'евіч Гальшанскі — тытулам «ваявода». Пасля 1507 г. тытул «наместнік» зусім выходзіць з ужытку. Пачаткі Наваградскага ваяводства, такім чынам, узыходзяць да 1440 года, 21 ліпеня 1990 г. яно мела б 550 гадоў. Гэта тэрытарыяльная адзінка Вялікага княства Літоўскага ахоплівала тэрыторыю з гарадамі Слонім, Ваўкавыск, Любча, Нясвіж, Слуцк. Праіснавала Наваградскае ваяводства да 1794 года.

**Мікола МІКАЛАЕЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**
**г. Ленінград.**

# ПАЭТ І КДБ,

## АБО ЯК Я ПАЛІЎ СВАЕ ВЕРШЫ

**ВЯЛІКІ ШЭРЫ БУДЫНАК СТАІЦЬ НА ВУЛІЦЫ ТЭЛЬМАНА У ГАРОДНІ, НЕПАДАЛЁКУ АД УНІВЕРМАГА. КАЛІ Я ПРЫЯЗДЖАЮ У ГЭТЫ ГОРАД І ДАВОДЗІЦЦА ІСЦІ КАЛЯ ТОЙ ПАБУДОВЫ, ТО СА ЗЛОСЦЮ ГЛЯДЖУ У ЕЙНЫ БОК. І ПРАМАУЛЯЮ АДНО ТОЛЬКІ СЛОВА: «ГЕСТАПА». ТУТ МЕСЦІЦЦА ГАРАДЗЕНСКІ КАМІТЭТ ДЗЯРЖАУНАЙ БЯСПЕКІ. НЕКАЛІ, У ЛЮТЫМ 1985 ГОДА, МЯНЕ ЗАПРАСІЛІ СЮДЫ, КАБ... АЛЕ РАСПАВЯДУ БОЛЬШ ПАДРАБЯЗНА.**

## НЯДАЎНЯЯ МІНУЎШЧЫНА

### ПЕЦЬКА

Лютый 1985 года. Балота чарненкаўшчыны. Гарбачоў ціха сядзеў у ЦК ды галасаваў за тое, што цяпер так заўзята аж шосты год перабудоўвае. Я ж тады вучыўся на другім курсе філалагічнага факультэта Гарадзенскага ўніверсітэта. Мірна бег час, ды раптам...

...Раптам нехта пастукаў у дзверы. Я сядзеў адзін у пакоі (жыў у інтэрнаце) і чытаў «Вопыты» Мішэля Мантэня. У пакой зайшоў Пецька. Ён у той час працаваў ва ўніверсітэце. (Я лічу, што пасля ўсіх падзей маю права называць яго проста Пецька. Прозвішча ягонага не ўказваю. А каб быць паслядоўным, і астатніх назаву інакш).

Значыць, прыйшоў Пецька. Адносіны ў нас з ім былі амаль што сяброўскія. Ва ўніверсітэце Пецька вітаўся са мной за руку, хваліў мае вершы. Між іншым, тады я ўжо друкаваўся ў «Гродненской правде», выступаў на розных святах і вечарынах.

Я запрасіў Пецьку выпіць шклянку гарбаты, ды той адмовіўся. Пільным вокам акінуў кніжную паліцу, дзе без усялякага парадку ляжалі падручнікі і канспекты. Выгляд у яго быў сур'ёзны й заклапочаны.

—Пакажы сшыткі са сваімі вершамі, — нечакана сказаў ён.

Я працягнуў сшытак, з якога заўсёды чытаў творы на выступленнях. Пецька пагартаў яго і аддаў назад.

—А дзе два іншыя, агульныя сшыткі: адзін — жоўтага колеру, а другі—цёмнасіняга? — запытаў ён.

То быў гром з зімовага неба. Я яшчэ не ачуняў і таму запытаў:

—Якія сшыткі?

—А тыя, у якіх ёсць вершы пра Сахарава, пра міліцыю, пра Савецкую ўладу. Адным словам, крамольныя вершы.

Рэакцыя з майго боку была самай элементарнай:

—Няма ў мяне ніякіх сшыткаў. Вы нешта выдумалі.

—Я не выдумаў, — узлаваўся Пецька. — Табой зацікавілася КДБ. Там усё пра цябе ведаюць. Не раю жартаваць з гэтай арганізацыяй. Таму хуценька кажы, дзе сшыткі.

Я не знайшоў нічога лепшага сказаць, як тое, што вершы дома, ва Ўселюбе. Трэба ж было выйграць час.

Пецька не паверыў. Ён нахабна палез на кніжную паліцу і пачаў рыцца ў маіх рэчах. Правёў самы сапраўдны вобыск. Ды вынікаў ніякіх гэты шмон не даў. Сшыткі ляжалі ў дыпламаце, а дыпламат—пад ложкам, куды Пецька не здагадаўся зазірнуць. Цяпер я смяюся, прыгадваючы той вобыск. А тады было ой не да смеху.

—Так, — Пецька задумаўся. — Даю табе два дні. Едзь дахаты і прывязі гэтыя сшыткі. І каб ніякіх фокусаў. Калі знішчыш іх, то табе горш будзе. Як прывязеш, зойдзеш да мяне ў кабінет.

Пецька пакінуў пакой. А я стаў думаць, адкуль у КДБ вынюхалі пра вершы. Быў тады жорсткі час і я нікому іх не паказваў.

Што ж рабіць? Сапраўды, я мог знішчыць сшыткі, а потым сказаць Пецьку ў вочы, што іх і не было, і наўрад ці што яны са мной зрабілі б. Ды вырашыў усё ж аддаць. Чаму—і сам не памятаю.

Праз два дні я зайшоў да яго ў кабінет. Пецька збольшага праглядзеў вершы і сказаў: «Апранайся. Пойдзем у КДБ».

Так я апынуўся ў шэрым будынку па вуліцы Тэльмана.

## СЯМЁНАЎ

Пецька завёў у нейкі кабінет і пайшоў. Там сядзеў мажны чарнявы мужык з вусамі, гадоў пад сорак. Назваўся.

— Ну, расказвайце, Пяткевіч, як вы да такога дакаціліся, — на добрай беларускай мове сказаў кэдэбіст.

—Да чаго?

—Да антысавецкіх сцішкоў.



Я маўчаў. Сямёнаў узяў сшыткі.

—Добра. Ідзіце. Калі спатрэбіцеся, выклічам.

І так ветліва, без усялякіх грубых фраз.

Праз тыдзень Пецька спаткаў мяне ва ўніверсітэце і сказаў, каб я тэрмінова ішоў у КДБ, да Сямёнава.

...Сямёнаў быў у тым жа кабінеце. На стале перад ім ляжалі мае сшыткі. Ён зноў запытаў, як гэта я да антысавецчыны дакаціўся. Я не адказваў.

—Давайце не будзем гуляць у маўчанку, — сказаў кэдэбіст. — У крымінальным кодэксе ёсць артыкул «Паклёп на савецкі лад». І Вашы вершы «ідуць» пад яго. Вас чакае астрог. Аднак, улічваючы, што вы малады (**мне тады толькі 18 год мінула. А. П.**), дый нічога страшнага не зрабілі, мы абмяжуемся наступным. Складзіце тлумачальны ліст і распіску, што вы больш не будзеце такога пісаць. А вершы знішчым. Вось і ўсё.

«Якая гуманнасць», — падумалася.

Я хуценька напісаў тлумачальны ліст, у якім сказаў, што светапогляд такі займеў, слухаючы заходнія радыёстанцыі. Пакаяўся і папрасіў прабачэння. Затым даў распіску, у якой запэўніў КДБ, што не буду больш пісаць антысавецкія творы. Потым Сямёнаў вырваў са сшытка крамольныя вершы. Я парваў іх і спаліў у жалезнай сметніцы..

А пасля Сямёнаў прапанаваў супрацоўнічаць з КДБ, даносіць, якія гутаркі вядуцца ў інтэрнаце, хто расказвае палітычныя показкі, слухае Высоцкага, Токарава, іншых крамольных бардаў. Абяцаў нават матэрыяльную дапамогу.

—Я застануся чэсным чалавекам, а быць шпіёнам не ў маім характары, — такім быў адказ. І больш мяне ў шэрым будынку не трымалі.

## ВЕРШЫ

Чытачы хочуць ведаць: якія вершы паліў я ў КДБ? На мой цяперашні розум, гэта былі бязвінныя, трохі крытычныя вершы. Ці не самы моцны «Ода акадэміку А. Д. Сахараву». У ім ёсць такія радкі:

**...Пад поглядам**
**ахранкі КДБ**
**Сядзіш, нібы**
**злачынца ты ці**
**злодзей...**

Далей былі вершы пра савецкія законы, дзе я ўжыў радкі з народнай мудрасці: «Савецкі закон — нібы дышла. Бо, куды павярнуў, туды й выйшла». Пра міліцыю:

**Куды глядзіць**
**міліцыя,**
**У краіне бандытызм.**

Было яшчэ чатырохрадкоўе:

**К камунізму смела**
**крочым**
**Мы з бутэлькаю ў**
**руках,**
**Будзем піць мы да**
**паўночы,**
**А затым адпачываць.**

Вось такая крамола. Усяго знішчана каля дзесятка вершаў, у якіх антысавецчыны кот наплакаў. Толькі некаторыя змог аднавіць у памяці.

**...НЯДАЎНА СПАТКАЎСЯ З ПЕЦЬКАМ У ГАРОДНІ. ПА-РАНЕЙШАМУ ПРАЦУЕ ЁН У ГДУ, ЗАЙМАЕ АКТЫЎНУЮ ГРАМАДСКУЮ ПАЗІЦЫЮ, ЕЗДЗІЦЬ З МАГНІТАФОНАМ ПА СОЙМАХ БНФ. ТОЛЬКІ З ЯКОЙ МЭТАЙ? ПРАБАЧЭННЯ Ў МЯНЕ ПРАСІЦЬ ЁН КАТЭГАРЫЧНА АДМОВІЎСЯ...**

**Андрэй ПЯТКЕВІЧ,**
**в. Уселюб.**

# ЭМІГРАНТ

**РОДНАЯ ХАТА СТАЛА ДЛЯ ЯГО ЧУЖОЙ. СЁСТРЫ ВЫЕХАЛІ, А ДОМ ПРАДАЛІ НЕКАМУ ПАД ЛЕЦІШЧА. ЧАЛАВЕК ПРЫСЕЎ НА ГАНКУ І АДЧУЎ ТОЕ ДАЛЁКАЕ ДЗЯЦІНСТВА, КАЛІ НЕ СЦІХАЛІ ТУТ ГАЛАСЫ НЯЎРЫМСЛІВАЙ ДЗЯТВЫ. І ТУГА НЕ ПРАХОДЗІЛА. НАВАТ ТУТ, ДОМА? ДЫ Й ЦІ ТАЯ БАЦЬКАЎШЧЫНА, ЦІ ЯГОНАЯ? А НА МОГІЛКАХ БАЦЬКОЎ, УСКЛАЎШЫ КВЕТКІ, САМ-НАСАМ З ЦЕНЯМІ ПРОДКАЎ, ЁН ЗАПЛАКАЎ. НЕ ВЫТРЫМАЎ. АЛЕ СТАЛА НЕЯК НАВАТ ЛЯГЧЭЙ. І ЎЖО БОЛЬШ СПАКОЙНА АГЛЯДАЎ МУРЫ ЛЮБЧАНСКАГА ЗАМКА, ДЗЕ КОЛІСЬ МЕСЦІЛАСЯ ПОЛЬСКАЯ СЯМІКЛАСНАЯ ШКОЛА. НАВЕДАЎ ЁН І НАВАГРАДАК. ПАЎГЛЯДАЎСЯ НА БУДЫНАК БЫЛОГА ПЕДВУЧЫЛІШЧА, І ЎСПАМІНЫ ПРА ПАДЗЕІ МІНУЎШЧЫНЫ ГОРКІМ БОЛЕМ КРАНУЛІ ДУШУ...**

1940 год. Землі Заходняй Беларусі ўз'яднаны з Усходняй. Прыйшла савецкая ўлада. Нарэшце можна было аддаць свае сілы роднай старонцы, спрыяць яе росквіту без усялякіх забарон. Менавіта так думаў васемнаццацігадовы студэнт педвучылішча Уладзімір Кавеліч. Ды...

Трэба ж было здарыцца такой недарэчнасці: нехта скінуў на падлогу ў інтэрнаце, дзе знайшоў сабе прытулак і Валодзя, партрэт бацькі Сталіна. Рамка паламалася, а шкло пабілася. У інтэрнаце падняўся перапалох. Пачалі шукаць злачынцу. І нехта кіўнуў на Кавеліча — сына спраўнага селяніна з Асташына. Вінаватага знайшлі. А сацыяльнага становішча было дастаткова, каб абвінавакціць у антысаветызме. І непавінны юнак загрымеў па гулагаўскіх дарогах.

Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Польскі эміграцыйны ўрад Сікорскага па дамоўленасці з Масквой пачаў набіраць дабраахвотнікаў у Польскае войска, якое мелася ваяваць супраць немцаў поплеч з Савецкай Арміяй. Палякі, а таксама тыя з беларусаў, хто жыў да 1939 года ў Рэчы Паспалітай, пачалі папаўняць войска генерала Андэрса.

Падаўся туды і Кавеліч. Ды палякі не захацелі ваяваць разам з саветамі, і армія праз Іран, іншыя арабскія краіны і Малую Азію падалася ў Егіпет. Там яны далучыліся да ангельскай арміі. Шараговец (радавы) Уладзімір Кавеліч удзельнічаў у баях супраць корпуса фельдмаршала Ромеля, пасля жаўнеры Андэрса высадзіліся разам з ангельцамі на Апенінах.

**В**АЙНА ішла да скону. І Кавеліч разам з такімі ж хлопцамі думаў пра тое, куды ж падацца па вайне. Радзіма палохала пераржытымі здзекамі, тэрорам. Ды й зноў мог апынуцца на Калыме. Пра вяртанне гутаркі не было. Пасля дэмабілізацыі Уладзімір застаецца ў Англіі. Пэўны час працуе афіцыянтам у рэстарацыі, пасля, там жа, — бармэнам. У Англіі ён ажаніўся на дзяўчыне нямецкага паходжання. Многія сябры па зброі апынуліся ў Аўстраліі, і яго запрашалі на зялёны кантынент. Згадзіўся.

Там ён працаваў на заводзе, нават адразу — у паўтары змены. Затое хутка паставіў шыкоўны дом, абзавёўся легкавушкай. Раслі дзеці, нястачы не было. Свой заходні рытм, свае клопаты. Вось і дзеці выраслі, вывучыліся. Толькі туга па радзіме, па радні не давала спакою. Але як паехаць? Каб адразу ж пасадзілі? І вось толькі цяпер, дзякуючы палітычным зменам, ён наведаў радзіму.

**...«САМЫ МІЛЫ Ў СВЕЦЕ КУТОК, ДЗЕ ЗАВЯЗАНЫ ПУПОК», — КАЖУЦЬ У НАРОДЗЕ. ЧАЛАВЕК ХАДЗІЎ ПА РОДНЫХ МЯСЦІНАХ, НАВЕДАЎ НАВАТ РАСЕЮ, ДЗЕ ЖЫВЕ СЯСТРА, А РОСПАЧ НЕ ПАКІДАЛА. ЁН РАЗГУБІЎСЯ. ЕХАЦЬ НАЗАД? АЛЕ ТУТ ЖА БАЦЬКАЎШЧЫНА, ТУТ — РАДЗІМА, ТУТ — УСЁ ДАРАГОЕ, БЕЛАРУСКАЕ. ДЫ Ж ТАМ ДЗЕЦІ, ЖОНКА, ДЛЯ ЯКІХ РАДЗІМА — АЎСТРАЛІЯ. І ЗРАЗУМЕЎ ЧАЛАВЕК, ШТО І ЦЯПЕР НЕ МАЕ ЎЛАДЫ НАД САБОЙ. І НІЧОГА НЕ ПАРОБІШ З ГЭТЫМ ВЫКРУНТАСТЫМ ЛЁСАМ — ТРЭБА ЕХАЦЬ У ДАЛЁКУЮ ЧУЖЫНУ. І ТОЛЬКІ НА ПАМЯЦЬ УЗЯЎ ЁН У ТОРБАЧКУ ЖМЕНЬКУ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ. КАБ ПОМНІЦЬ, КАБ АДЧУВАЦЬ...**

**Уладзімір СІЎКО,**

**мястэчка Любча.**

«Любая справа або дзеянне ў нас пачынаецца з малітвы. Таму і гутарку таксама пачнём з яе... Няхай Бог благаславіць гэты аповяд..»

Так пачалася мая сустрэча з хрысціянамі-евангелістамі Наваградка. Сярод мірскіх людзей яны больш вядомы як баптысты.

Дом малітвы хрысціян веры евангельскай месціцца на ўскрайку горада, на вуліцы Люсі Сечка. Звычайна тут не так шматлюдна, як у касцёле ці царкве. І ўсё ж дом не пустуе ніколі. На мой запыт, чаму назва «Дом малітвы», адказам былі словы з Пісання: «...дом Мой Домам малітвы назавецца» (МР. 21:13).

# „...ДОМ МОЙ ДОМАМ МАЛІТВЫ НАЗЫВЕЦЦА“




## БРАТ АЛЯКСЕЙ

Яны адзін аднаму браты і сёстры. І не толькі на сходзе, або ў час малітвы, але і ў пабытовым жыцці.

А гэты хлопец мне адразу прыкінуўся. Адчуў: у малітоўным доме ён нядаўна. І не памыліўся. Той згадзіўся расказаць пра сябе. Прозвішча, па далей зразумелых прычынах, не называю.

—Ніхто са знаёмых і родных пакуль не верыць у маю перамену. І ёсць чаму! На днях атрымаю першы ў жыцці заробак, а мне ўжо пад 30. Чаго толькі не было. У войска з-за гарэлкі не хацелі браць. Узялі, дык там разы тры ад алкаголю лячылі. Пасля дэмабілізацыі — псіхбальніцы: Харкаў, Магілёў, Брэст, Крывошын, Астроўля. Усяго не ўспомніш, ды і няма ахвоты. Дайшоў да шклоачышчальніка, сінькі і іншай атруты. У часы рэдкага прасвятлення прыходзілі думкі: гіну, што рабіць, хто дапаможа? Не было каму.

Як сюды трапіў? Ого, брат! А было так, хацеў я гэты дом абрабаваць... Тым і жыў: што ўкраду — прап'ю. Мне ўяўляліся баптысты вельмі багатымі людзьмі: не п'юць, не кураць, куды ж яны грошы дзяюць? У доме тут, думаю, няведама што. А святога для мяне тады нічога не было. Марыў сябе ўжо ў Сочы: іду пад пальмамі, дзеўкі пад бокам, п'яны...

Зайшоў у Дом прыгледзецца. Стаю. Ідзе сход, а нічога не разумею. Сам сабе думаю: без псіхіятра не разабрацца. Нават збаяўся, каб зараз галавой біцца не прымусілі. І тут чую: расказваюць з кафедры гісторыю пра злодзеяў, якія ішлі абакрасці веруючага чалавека, бо ведалі, што ён прадаў карову і мае грошы. А той сам адкрыў ім дзверы, накарміў і даў грошай на дарогу.

Нешта як бы зламалася ўнутры пасля гэтага дня. Не, не імгненным быў мой выбар, цяжка было. Помню з раніцы прыду — малюся, а пасля абеду блукаю па горадзе п'яны. Але з таго часу я тут. І вось, урэшце, слаўлю Бога! А людзі казалі: «Каго вы бераце, ён вам утворыць!» Не паверылі ім, узялі, бо «Бог ёсць любоў».

## «ІДЗІЦЕ ПА ЎСЯМУ СВЕТУ...»

**«Ідзіце па ўсяму свету і прапаведуйце Евангелле ўсякай істоце» (Мр. 16-15).**

Баптысты, іх вера і вобраз жыцця ўспрымаюцца людзьмі неадназначна: адны адносяцца з павагай, бо тыя не кураць, не п'юць, не брыдкасловяць (што ў наш шалёны час ужо нямала), другія — насцярожана, усё ж яны жывуць не так, як большасць з нас. Іншыя, увогуле, лічаць іх адшчапенцамі ад «ісціннай» рэлігіі, сектантамі, якія прыносяць Богу жудасныя ахвяры, не хрысцяцца, не ходзяць на танцы і баяцца тэлевізара.

Афіцыйна баптызм лічыца адносна новай з'явай, і што нарадзілася яна ў 17-м стагоддзі. Самы евангелісты з гэтым не згодны. Адносяць пачатак утварэння абшчыны Хрыстовай да таго далёкага часу, калі Езус на 50 дзень пасля ўзнясення хрысціў у Ерузаліме сваіх вучняў і іншых людзей Духам Святым. Адсюль і назва «пяцідзесятнікі».

Адным з заснавальнікаў хрысціянска-евангельскай веры на Наваградскай зямлі быў Рыгор Красkоўскі.

У 1919 годзе ён вярнуўся з Амерыкі на Радзіму, у Наваградскі павет. Тут і пачынае прапаведаваць сярод землякоў Слова Божае. Па рознаму ўспрымалі яго людзі, называлі антыхрыстам, ілжэпрарокам. Але Р. Краскоўскі працягвае сваю справу. 14 красавіка 1924 года, першы дзень Пасхі з'явіўся пераломным для ўсяго раёна. У гэты дзень з 30 чалавек абшчыны 12 былі хрышчаны Духам Святым. Людзі ўсё больш пачалі звяртацца да Бога праз абшчыну пяцідзесятнікаў.

Памёр Рыгор Краскоўскі ў 1931 годзе. Прадаўжальнікі яго справы ў наваградскім павеце: Ануфрый Мазала. Іван Панько, Павел Тур, А. Кавальчук, І. Новік і іншыя.





## І МЫ ГУТАРЫЛІ...

**«...Кожны з вас, хто не адмовіцца ад усяго, што мае, не можа быць Маім вучнем» (Лк. 14-33).**

Дом малітвы хрысціян веры евангельскай у Наваградку існуе з 1933 года. Пабудаваны і ўтрымоўваецца на сродкі самых евангелістаў. Іх абшчына ў горадзе налічвае каля 150 чалавек. Заснавальнік — Аляксей Цішук, родам з В. Ізвы.

Звычайныя і ў той жа час незвычайныя людзі. Духоўныя законы іх жыцця, як яны кажуць, супярэчаць мірскім. І таму, лічаць яны, калі жывеш па слову Божаму, людзі бачаць у гэтым нейкі комплекс ненармальнасці.

Розныя людзі розных узростаў ходзяць у гэты дом. Цікавілі мяне больш маладыя.

...Патрэскваюць дровы ў печцы. Аляксей час ад часу падкідае паленні. Мікалай Баярэвіч, Надзя Кавалевіч, Васіль Кіклевіч, Саша Кавалевіч, той жа Аляксей і шмат якіх незнаёмых. У гэты вечар яны сабраліся на разбор Слова. Гутарым лёгка, нават весела. Адчуваю, што мне добра з імі, што яны разумеюць мяне.

**БРАТ ВАСІЛЬ:**

— Прытрымлівацца той ці іншай рэлігіі, яе абрадаў яшчэ не значыць верыць і жыць у веры, як вучыць Біблія. Шмат людзей, якія называюць сябе хрысціянамі, не жывуць згодна Слова Божага, нават большменш не ведаюць яго. У хрысціянскіх храмах няма прысутнасці Духа Святога. Або разуменне хрышчэння. Працэс гэты трэба перажыць, прапусціць праз сябе, сваё сэрца. Напрыклад, баявое хрыш-

чэнне. Чалавек ідзе ў атаку, свішчуць кулі, навокал смерць. Пасля ён ужо не той ранейшы. Ці не так? А хрышчэнне немаўляці, якое нічога яшчэ не разумее ў гэтым жыцці, Вось ты ўсведамляў свае дзеянні ў некалькі месяцаў?

А крыж, абразы — тварэнне рук чалавечых — чым людзі сябе асяняюць і чаму пакланяюцца. Ці не ідалапаклонства гэта?

**— Паняцце духоўнасці ёсць і ў мірскім жыцці. Як вы яго разумееце і якім яно вам бачыцца?**

**БРАТ МІКАЛАЙ:**

— Час змяніўся да лепшага. Цяпер нават калі не прымаюць і не разумеюць іншадумцаў, то і не гоняць. А раней як было? Увогуле, любую духоўную культуру не прымалі. Колькі таленавітых паэтаў, мастакоў нават памерлі безыменнымі, іншыя эмігрыравалі. Бо іх не зразумелі на Радзіме, не прынялі. А духоўная спадчына такіх людзей, як Рафаэль, Мікеланджэла і іншыя?

Нават цяпер большасць звычайных людзей не разумеюць духоўнай глыбіні іх творчасці. У кожнага чалавека ў душы павінны быць нейкія прынцыпы і перакананні, па якіх ён жыве і якім не здрадзіць. У сталінскія часы некаторыя ішлі на смерць, але не палі духам. Гэта смелыя людзі, яны заслугоўваюць павагі.

**—Кашпіроўскі, Чумак і многія іншыя лечаць людзей. Да іх, як і да вас, адносіны ў мірскіх людзей розныя. Ёсць факты, калі іх тэлесеансы некаторым хворым дапамагаюць. Якая ваша думка аб гэтых людзях і іх дзейнасці?**

**СЯСТРА НАДЗЕЯ:**

—І сатана лечыць, бо фактычна гэта адзін з былых ангелаў Божых, нізвергнуты за непадпарадкаванне волі Божай на зямлю. І ён мае пэўную сілу і дае яе толькі тым, хто належыць і служыць яму. Але што каштуе чалавеку тая дапамога? Вось дзе хітрасць д'ябла. Вылечыўшыся фізічна, чалавек захворвае духоўна, бо ён паверыў у сілу д'ябла, толькі ў чалавечым абліччы. Помніце, у Пісанні сказана, што будуць прыходзіць на Зямлю прарокі і імем Гасподнім будуць тварыць цуды. Што мы і бачым.

Нават той факт, што ўсе гэтыя «цаліцелі» бяруць за свае паслугі грошы, і немалыя, ужо гаворыць аб тым, што з'ява гэта не ад Бога. Бо Ён усё дае дарма і хоча толькі адну ўзнагароду — усім сваім сэрцам верыць у яго.

**—Такая з'ява, як НЛА, думаю, вядома і вам. Прылятаюць, садзяцца, здараецца, забіраюць да сябе «ў госці» землян. Хто вяртаецца адтуль, а хто і не. Як вы, евангелісты, тлумачыце гэту з'яву?**

**БРАТ ВАСІЛЬ:**

—Паслухай Слова: «І ўзвёўшы Яго на высокую гару, д'ябал паказаў Яму ўсе царствы сусвету ў імгненне часу...» Заўважыў? Усе царствы сусвету паказаў д'ябал Ісусу. Значыць, ёсць акрамя нашага свету і іншыя ў сусвеце, і ён імі валодае. Ісус жа кажа: «...напісана: «Госпаду Богу твайму пакланяйся і Яму аднаму служы». Я адказаў на тваё пытанне?

**—Так. А як да вас ставяцца на працы?**

**БРАТ АЛЯКСАНДР:**

— Калі ўладкоўваліся ўдваіх з сябрам, спачатку не бралі, маўляў, месц няма. А як даведаліся, што веруючыя, — усё, знайшлося. Брыгадзе інжынер кажа: «Радуйцеся, хоць два чалавекі будуць у вас заўсёды цвярозыя». І ўвогуле, вы дзе чулі, каб веруючым чалавекам былі на працы незадаволены?

**— Паведамце крыху аб іерархічнай пабудове вашай царквы.**

**БРАТ ВАСІЛЬ:**

—У нас няма духоўных пасад, як у іншых цэрквах. Абшчыны маюць прасвітэраў, якія накіроўваюць і вядуць арганізацыйную работу. Ёсць рэспубліканскі і агульнадзяржаўны саюзы хрысціян-евангелістаў, там таксама ёсць прасвітэры. Але ўсе яны роўныя кожнаму з нас, ніхто пры іх прыездзе, няхай бы і ў нашу абшчыну, не будзе біць ім пакланаў, усцілаць дарогу кветкамі і аказваць іншыя пачасці. Прад Богам усе роўныя. Кожны з нас помніць словы Хрыста: «Усякі, хто захоча ўзвысіцца, няхай будзе прыніжаны».

## ДЗЕ Ж ІСЦІНА?

**...На двары быў цёмны восеньскі вечар. Пасля сустрэчы на душы засталіся цеплыня і смутак. Удалечыні цьмяна свяціў ліхтар. Трое п'яных мужчын, што спрачаліся каля веснікаў, папрасілі закурыць і далей перакрыквалі адзін аднаго.**

**Вось і зноў я ў гэтым шалёным кругавароце. Зноў сярод такіх, як і сам, занятых паўсядзённасцю людзей. Няўжо наша жыццё— мітусня? А дзе ж сэнс, дзе ісціна? Многія, хто пачынае яе шукаць, хто нарэшце прыйшоў, упэўнены, не шкадуюць. Душэўны спакой, пазнанне сэнсу жыцця, аптымізм, вера ў заўтрашні дзень — вось што даюць ім зносіны з Богам. І яны свята вераць, што без волі Ягонай і волас не ўпадзе з іх галавы.**

**Юрась ГАЦКІ.**

# ПЕРАД ДАЖДЖОМ

*Міхась Талочка*

У ГЭТАЙ кватэры мужчына ўжо прызвычаіўся і да старой канапы, і да радыёлы, што замест стала і зэдліка, як нармалёвую з'яву ўспрыняў зачыненую на замок варыўню.

З'еўшы кавалак паляндвіцы, што ўзяў з дому, і запіўшы купленым малаком, ён прылёг і закурыў. Выцягнуў ногі, пазяхнуў. Не было чым заняцца, і ён паспрабаваў думаць. Але нечакана заўважыў, што думаць не можа. Да грудзей, да галавы падступала нейкае адчуванне, пачуццё, нават слова ён не мог знайсці. Мужчына агледзеў кватэру. Дзверы на гаўбец былі адчынены, і вецер гойсаў, шпурляючы недапалкі і трэскі, пакрытыя дзікім пылам. Кватэра была чужая, і прыбіраць мужчына не збіраўся.

Гэта было нейкае насланнё. Мужчына хацеў схавацца пад коўдра, зашыцца і нічога не бачыць, нічога не чуць. Мусіць, так сябе адчувае сабака, на якога падымаюць палку. Але ён не разважаў. Здавалася, нешта ўнутры забуксавала і не можа рушыць ні наперад, ні назад.

«От, — падумаў.—Трэба заплюшчыць вочы, задрамаць. Само пройдзе»

Але нічога не атрымлівалася. Мужчына ўстаў некалькі разоў падскочыў, пайшоў у градніцу і апрануўся. Выскачыў з хаты, захапіўшы жменю «двушак». Каму званіць не ведаў, але гэта не галоўнае. «Цяпер трэба нешта рабіць, — думаў ён. — Нешта рабіць, каб стала лягчэй».

Прыгадаў, што ёсць пляшка гарэлкі і каго-небудзь са старых сябрукоў можна запрасіць.

Некалькі нумароў маўчала. Нарэшце дазваніўся.

—Прывітанне, гэта я. Пазнаў? — узрадаваўся мужчына.

—Вядома ж пазнаў.

—Чым займаешся?

—Малую пакупаю і спаць лягу.

—А я вось прыехаў...

—Разумею.

—Як справы ўвогуле?

—Шмат спраў. Па тэлефоне не раскажаш. Пад'язджай заўтра ўвечары, паразмаўляем.

—А я сёння вось.

—Не-не.

—А я думаў пачаставаць «бімбарам» і палянвічкай.

—Ай, давай заўтра.

—Не, заўтра не будзе як, — раззлаваўся мужчына. — Бывай.

—Ну, пакуль.

Ён набраў яшчэ некалькі нумароў, але тэлефон маўчаў. Субота, падумаў, раз'ехаліся па лецішчах.

Моцны вецер гойдаў дрэвы. І галіны гушкаліся, як рука дырыжора для таго, хто не разбіраецца ў яго рухах. Зачынялася харчовая крама. Выходзілі дагледжаныя, брудна-шыкоўныя гандляркі і два мужчыны. Па іх спітых тварах можна было меркаваць, што грузчыкі.

—Половой бандит,—зарагатаў адзін, абняўшы прыяцеля.

—Га-га-га, — заняліся кабеты. — Пачаму эта?

—Пол зламаў! Га-га-га...

«А можа мне кабету трэба», — разгублена падумаў мужчына. І адразу адагнаў думку, ведаючы, што тады няма такога страху. Тым больш гэткі стан ужо не раз быў у яго. Тады напіваўся і выкідваў розныя штукарствы. І чым брыдчэйшае вырабляў, тым больш апаноўвала задаволеная злосць.

У тамбуры было брудна. Валяліся недапалкі, паперкі, а калі расчыняліся дзверы ў вагон, то адтуль несла прыбіральняй. І злосць на цягнік прагнала страх. Менавіта так вырашыў мужчына, заўважыўшы, што гэта брыдкае, невытлумачальнае пачуццё прайшло. «Трэба выходзіць і дабірацца да кватэры», — падумаў, задаволены, што добра ўсё абышлося.

МУЖЧЫНА падышоў да прыпынка і, дачакаўшыся аўтобуса, паехаў убок чыгункі. На станцыі ў натоўпе ён адчуваў сябе менш адзінокім. Ногі рухаліся некуды самы. І гэтак ён апынуўся ў электрычцы. «Квітка не ўзяў, — аўтаматычна думаў мужчына. —Але нічога — дзесятку маю. Калі што якое — штраф заплачу».

Электрычка спынілася на ўскрайку горада. Убаку ад прыпынку, каля нейкага сквера, стаяла лаўка. Мужчына падышоў і сеў. «Што ж са мною адбываецца? Можа, я душэўна хворы, мо вар'яцею?»

Мужчына прыгадаў, як некалі хлапчуком старэйшыя падгаварылі пабіцца з суседам, а той узяў і адлупцаваў. Было брыдка, і дома ён тупаў нагамі, нема крычаў без слёз, а спалоханая маці нічога не магла ўцяміць.

І ЦЯПЕР зноў стала шкада сябе. Ён скрывіўся, ціха застагнаў, кінуўся на зямлю. Рукамі пачаў зграбаць лісце, рваць траву, шараваць аб зямлю нагамі. Праз пару хвілін усё прайшло. Ён ляжаў і толькі ціха стагнаў.

—Эй, што з вамі?

Мужчына павярнуўся на спіну. Над ім стаялі два хлопцы.

—Зямляк...

—Чаго? Пайшлі на хрэн адсюль!

—Што?!

Адзін з іх стукнуў нагою пад дых. Неяк злёгку, не моцна. Мужчына не адчуваў болю, але перавярнуўся на жывот. Ён разумеў, што можна ўсхапіцца і надаваць каўтулёў гэтым падшыванцам. Але не хацелася падымацца. Яшчэ некалькі разоў стукнулі, а пасля пачуў:

— Хадзем. Паўдурак нейкі.

Мужчына выцягнуў адну нагу, другую і выцягваў іх далей і далей. Здавалася, што яны становяцца большымі.

—Ыф, ыф, — з дзікай задаволенасцю стагнаў ён. — Ыф. Ён выцягваў рукі, цела. Нічога не думаў, усё рабілася само. І ад гэтага было толькі прыемна.

Ужо даўно сцямнела. Але ён не бачыў, лежачы з заплюшчанымі вачамі. Хацеў падняцца, але падумаўшы: «Навошта», застаўся ляжаць.

Нікога ва ўсім свеце не было. Шумеў вецер, гойдаліся дрэвы. Насоўваліся хмары, вось-вось павінен быў пачацца дождж.



Ужо ў першым нумары мы змясцілі фотаздымкі колішняга Наваградка. Гэтыя выгляды горада зрабіў фатограф Віннік (так паведаміў гаспадар фотаархіва — Раман Лецка). Дарэчы, ягоная майстэрня месцілася там, дзе цяпер магазін «Абутак».

# НАВАГРАДАК У СТАРЫХ ПАШТОЎКАХ



Магазін «Паўлінка» — стары будынак. У царскі час тут была пошта, пры Польшчы — аддзел земляробства. Злева на здымку — колішні гатэль «Еўропа». Цяпер тут — служба «хуткай дапамогі».



Цяперашняя Мінская вуліца так называлася і пры немцах у 1916—1918 гг. За Польшчай чамусьці — Карэліцкая.

# Гудзевіцкая НАРОДНАЯ медыцына

**Не адзін год А. Белакоз з Гудзевіч збіраў розныя народныя сродкі лячэння хвароб. Таму працу гэтага вясковага настаўніка з-пад Мастоў трэба разглядаць не толькі, як парады ад захворванняў, але і як твор фальклёру.**

**Зараз шмат з'яўляецца дапаможнікаў па народнай медыцыне. Але, на жаль, там абсалютна не ўлічваюцца нацыянальныя своеасаблівасці прыроды, нават людзей. У гэтым сэнсе праца Алеся Белакоза вызначаецца сваёй тутэйшасцю.**

**Паважаныя чытачы! Якія хваробы вас турбуюць? Дасылайце нам свае просьбы. Па мажлівасці на старонках «Кур'ера» вы знойдзеце адказы. Добрага вам здароўя!**

## ЗАХВОРВАННЕ ЗУБОЎ

1. 2 сталовыя лыжкі зелля **хвашча палявога (хвашчаю)** парацы усю ноч у шклянцы вады. Палошчуць рот. Дарэчы, дапамагае і ад болю дзяснаў.

**2. Добра дапамагае сумесь з двух адвараў: з шалфею (5 гр. на адну шклянку вады (1 дубовай кары (5 гр. на адну шклянку вады). Адвары працэджваюць і змешваюць. Атрыманая сумесь іх выкарыстоўваецца для паласкання.**

3. Дапамагае пры хваробе зубоў і **загартоўка.** Раяць хадзіць боса па вадзе, па мокрых камянях, па снезе.

**4. Папярэдне трэба высушыць расліны АГАТКІ (КАШАЧАЯ ЛАПКА) з кветкамі. Пасля пасячы на махорку і даваць хворым нюхаць. Праз 3-6 гадзін боль зусім сціхае.**

5. Адну газету скруціць у трубачку ці складці гармонікам і паставіць у шклянку. Газету падпаліць. Калі яна згарыць, то попел са шклянкі высыпаць, на дне застанецца **светла-карычневая смала.** Гэтую смалу трэба сабраць: на запалку наматаць ватку і вымазаць гэтай смалой. Ватку са смалой пакласці на балючы зуб, у адтуліну. Боль сціхае. Калі праз некалькі гадзін яна паўторыцца, то лячэнне трэба зрабіць паўторна.

**6. Паласкаць адварам АСІНАВАЙ КАРЫ.**

7. Памагае настой з лісцяў **ГРЭЦКАГА АРЭХА.** Настой робяць наступным чынам: адну сталовую лыжку сухога раздробленага лісця заліваюць 2 шклянкамі вару і настойваюць адну гадзіну.

**8. Раскідаць вялікі мурашнік. Усадзіць руру і дастаць БЕЛАЕ РЭЧЫВА (ЛАДАН).** Пакласці крыху на зуб. Боль адразу спыніцца. Мурашнік зноў засыпаць.

9. Крамянёвая вада (чытай мінулы нумар).

## ВАРЫКОЗНАЕ РАСШЫРЭННЕ ВЕНАЎ

1. Можна вылечыць, калі доўгі час ужываць настой лісцяў **КРАПІВЫ** і пры гэтым захоўваць дыету (не есці мяса, рыбы і нічога тлустага).

**2. Піць цёрты МУСКАТНЫ АРЭХ. Піць каля года.**

## ІМПАТЭНЦЫЯ (ПАЛАВОЕ БЯССІЛЛЕ)

1. Сок клубняў ятрышніку ўзмацняе палавое пачуццё.

**2. Настойка ФЕРУЛЫ («Цянь-шаньскі жэньшэнь»). Некаторыя карыстаюцца гарэлачнай настойкай са свежага кораня.**

**3. ДЫМНІЦА ЛЕКАВАЯ.** Ужываюць 1/3 шклянкі 3 разы ў дзень настой ці адвар з 10 гр. (2 поўныя чайныя лыжкі) зелля на шклянку вады.

4. Настой **СВЯТАЯННІКУ ДЗІРКАВАТАГА.** Ужываюць па паўшклянкі 3 разы на дзень. (100 гр. зелля на шклянку вады).

## ЦУКРОВЫ ДЫЯБЕТ

1. Корань **РАДЫЕЛЫ РУЖОВАЙ (РУЖОВЫ КОРАНЬ):** 100 гр. свежага кораня настойваюць на на 1 л. гарэлкі, прымаюць па 20 кропляў 3 разы ў дзень за паўгадзіны да яды.

**2. Піць настой і адвар РАГОЗУ.**

**3. КОРАНЬ ЛОПУХА:** 20 гр. на 250 гр. вады.

4. Адвар (у роўных колькасцях): насенне лёну, стручкі фасолі (без зярняткаў), лісце чарніцы, аўсяная салома (здробненая на сечку).

Для прыгатавання адвару бяруць 3 сталовыя лыжкі сумесі, заліваюць 3 шклянкамі вады, вараць 10 хвілін, адстойваюць і прымаюць па 1/4 шклянкі 3 разы на дзень.

**5. Настойка раслін, сабраных у маі: альховы ліст—1/2 шклянкі свежага ліста, крапіва свежая — цвет, адна сталовая пыжка, лебяда—лісця, 2 сталовыя лыжкі і адна шклянка, усё змяшаць і даць пастаяць 4—5 дзён на святле, дадаць дробачку соды. Піць па адной чайнай лыжцы 2 разы на дзень перад ядой за 30 хвілін, вечарам перад сном.**

6. Настойка **ПУПЫШАК БЭЗУ,** збіраюць вясной пры іх набуханні. Сушаць у цяньку, адну сталовую лыжку пупышак заварваюць у адным літры вару, прымаюць па адной лыжцы тры разы на дзень пасля яды.

**7. Адвар сухога лісця ЧАРНІЦ.**

8. Шалупінне фасолі, найлепш са струкоў не зусім спелых, парэзаць, высушыць (можна на сонцы), дасушыць у духоўцы. Ад 30 да 100 грам сухога шалупіння заліць літрам халоднай вады. Трымаць так 6—12 гадзін (залежна ад колькасці шалупіння), пасля ў гэтай самай вадзе варыць пад накрыўкай 5—10 мінут. Адцадзіць. Піць 3 разы на дзень па шклянцы паміж ядой.

**9. Адвар з карэнняў бэзу чорнага.**

10. Крамянёвая вада.

**(Працяг будзе).**

АБ'ЯВА

БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНА-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ.
ДАВЕДКІ, КАНСУЛЬТАЦЫЯ ПА ТЭЛ. 73-6-14.
СПАДАР ЯЎГЕН ВОЙНА.

*Алесь Муха*

# ПАРАЗУМЕЛІСЯ

## Гумарэска

СЦЯПАН Сцяпанавіч Чапяла — бравы міліцыянер, майстра сваёй справы. Бывала, з гразі чалавека падніме і нічога: блішчыць той, нібы цацачка. Вядома, калі высокага рангу. Бо з мужыком працей. Таго не трэба вычухваць. Можна ўрэзаць на ўсю шпулю.

І вось заходзіць аднойчы шаноўны Сцяпан Сцяпанавіч у не менш шаноўную гандлёвую кантору. Яе супрацоўнікі як раз дзяліліся службовымі сакрэтамі.

—Ніяк не ўцямлю, што адкуль бярэцца,— гаварыў малады і малавопытны служка Меркурыя. — Паліцы ў нашых крамах нібы карова языком падчысціла. А планы перавыконваем!

—Дзівак ты, не разумееш законаў гандлю! — упічувала яго калежанка больш сталага веку. — Тут спрыт нашых рук і ніякага махлярства!

У пакоі раздаўся дружны рогат. І ў гэты момант адчыніліся дзверы і з'явіўся на парозе бравы Сцяпан Сцяпанавіч. Гамонка ў канторы ў момант аціхла, службоўцы дружненька схіліліся да казённых папераў.

Чапяла салідна адкашляўся і пачаў дакладваць:

—Маю прадпісанне праверыць, як у вас выконваецца закон...

Пры слове «закон» у паважаных гандляроў спахмурнелі твары. Некаторыя пачалі ледзь прыкметна калаціцца. А Чапяла, задаволены зробленым уражаннем, працягваў:

—...як у вас выконваецца закон Беларускай ССР аб мовах.

У канторы ўсталявалася мертвая цішыня. Бедныя канторшчыкі проста не верылі сваім вушам. Які закон? Пра якія мовы? Хіба ўжо і такі напісалі? А мо тут якія хітрыкі?

Першай ачомалася столаначальніца. Маючы тонкі і дасціпны розум, яна хутка змікіцела, што да чаго, і падумала: «Гэта ўжо нефармалы нам падтыкаюць міліцыю. Ну, трымайцеся! Мы таксама не лыкам шытыя!»

—Дык вы, бачу, ад Таварыства беларускай мовы, — звярнулася яна да Сцяпана Сцяпанавіча.—Так і сказалі б.

Але Чапяла на раскрываў сваіх картаў.

—Ну, ад Таварыства, не ад Таварыства— не ў гэтым справа,— неакрэслена сказаў ён і дадаў:—Вось пакажыце, што тут у вас па-беларуску напісана. На якой мове машынкі друкуюць? І наогул якія планы?

—Што ж, мы людзі законапаслухмяныя, — уздыхнула столаначальніца, састроіўшы міну пакоры. — Мы ўсе законы выконваем. Але я вам проста па-чалавечы раю: спярша пацікаўцеся, чым займаецца гэтае Таварыства. А пасля ўжо гандаль трасіце. Прачытайце хоць бы іх газету «Навагрworld кур'ер».

—Так, так! — хорам загула кантора. — Прапаведзь нацыяналізму, фашызму і наркаманіі!

Большасць канторшчыкаў нічога не ведала ні пра само Таварыства, ні пра ягоную газету. Але ўсе разумелі—абвінавачвай хоць самога чорта, абы ад сябе адвадзіць міліцыю.

...Вечарам, лежачы на канапе, Сцяпан Сцяпанавіч гартаў падораны яму ў канторы «Кур'ер» і ў голас абураўся:

—Ды гэта ж самая натуральная прапаведзь нацыяналізму, фашызму і наркаманіі! А нам бы ўсё на гандляроў сварыцца: мафія, штучны дэфіцыт! Гаркам спіць, КДБ спіць, а работнікі гандлю першымі выявілі ідэалагічны вірус. Наскрозь бачаць, хто чым дыхае. Малайцы!..

Сцяпан Сцяпанавіч соладка задрамаў. Яму сніліся пераможныя сны і новая ўзнагарода.


«Навагрworld кур'ер»

№ 1 1991 г.

ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ РАЁННАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ імя ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Рэдактар

Міхась ТАЛОЧКА

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Таіса ГУРКО
Галіна ТАМКО
Васіль ШЭДЗЬ

Рэдакцыя друкуе матэрыялы аўтараў, пазіцыю якіх не заўсёды падзяляе.

Індэкс: 231400

г. Навагрудак
вул. Валчэцкага
д. 49а, кв. 1
Хацько Т. І.

Наклад 5000 экз.
Кошт 75 кап.

Навагрудская ўзбуйненая друкарня.
Зак. 457

# БЕЛАРУСЫ ЖАРТУЮЦЬ

### У ЦАРКВЕ

ДЗЯК. Што ты, айцец, гарэлку п'еш? Яна ж вораг чалавека.
ПОП. Гарэлку я п'ю, бо ў Евангеліі сказала: «Палюбі ворага свайго!».

### САМ ВЕДАЮ

**Едзе шафёр. Адной рукой трымае руль, а другою абдымае дзяўчыну. Раптам міліцыянер.**
**—Што робіш? Дзвюма рукамі трэба!**
**—Сам ведаю, што дзвюма трэба,—адказвае вадзіцель.—А машынаю хто кіраваць будзе?**

### ПРЫНЦЫПОВАЯ

У жанчыны пытаюцца:
—Колькі вам гадоў?
—Трыццаць.
—Але ж вы і ў тым годзе гэта ж казалі.
—Я ад сваіх слоў ніколі не адмаўляюся.

### ПАСЛЯ ВЯСЕЛЛЯ

**—Ведаеш, любы, у мяне ёсць адзін недахоп: не ўмею эканоміць грошы,—кажа маладая жонка.**
**—Нічога, даражэнькая. Навучышся, бо я яшчэ не навучыўся іх зарабляць.**

### ВЯРНУЛАСЯ

—Жонка ад вас пайшла, але не сумуйце: можа яна яшчэ вернецца.
—Як жа не сумаваць, калі яна ўжо вярнулася.

### ПРЫКЛАДНЫ МУЖ

**—Абдымі мяне,—сказала жонка.**
**Абняў.**
**—Пацалуй.**
**Пацалаваў.**
**—А мне здалося, што ты мяне не кахаеш.**
**—Што ты! Для цябе я гатовы на любыя ахвяры.**

### ВЕЧАРЭЭ

—Добры вечар, даражэнькая цешча!
—Што ты, зяцёк, дзень з ноччу зблытаў?
—Ды не зблытаў... Гэта як цябе пабачу, дык уваччу цямнее.

### ЖАРТЫ БЫВАЮЦЬ РОЗНЫЯ

**П'яніца, ледзь пераваліўшыся цераз парог сваёй кватэры, сказаў жонцы:**
**—Усё! Больш піць не буду!**
**Узрадаваная жонка распранула яго, разула і нават спаць паклала.**
**Ляжыць ён, уздыхае, а пасля і кажа жонцы:**
**—Але і менш піць таксама не буду!**

### НЕ ВЕДАЕ

—Скажы, што цяпер—ноч ці дзень?—запыталі два п'яныя ў прахожага.
—Не ведаю, браткі, я не тутэйшы,—адказаў той.

### У БІБЛІЯТЭЦЫ

**—Што вы мне параіце пачытаць? Я люблю кнігі невялікія па аб'ёму, але багатыя па зместу.**
**—У такім разе чытайце сваю ашчадную кніжку.**

### САМ ВІНАВАТЫ

Ноччу пастукалі ў шыбу і запыталіся:
—Гаспадар, табе дровы трэба?
—Не, не трэба,—адказаў гаспадар.
Раніцай гаспадар за галаву хапіўся: дровы з паветкі зніклі...

## *КАБ АТРЫМЛІВАЦЬ У 1991 ГОДЗЕ*

# „НАВАГРАДСКІ КУР'ЕР",—

**ТРЭБА ВЫСЛАЦЬ ПАШТОВЫ ПЕРАВОД НА СУМУ 7 РУБЛЁЎ**

**ПА АДРАСУ:**

**231400 ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛ.**
**г. НАВАГРАДАК,**
**вул. ВАЛЧЭЦКАГА, д. 49а, кв. 1**
**ХАЦЬКО ТАЦЦЯНЕ ІВАНАЎНЕ**

(зваротны адрас і прозвішча пісаць выразна)

**ПРЫМАЕМ АБВЕСТКІ, ВІНШАВАННІ**

## НАШ КОНКУРС

У першым нумары «Кур'ера» мы абвяшчалі конкурс на лепшую паказку. Найперш з наваградскага жыцця. Калі ласка, першая.
—Чым Наваградак адрозніваецца ад Ленінграда?
—Ленінград—горад, які пабудавалі на балоце, а Наваградак—горад, які ўлады ператварылі ў балота.